ВЫДАВЕЦТВА Ў. ЗНАМЯРОЎСКАГА.

# ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ

## МАЦЕЯ БУРАЧКА.

(Ф. Богушэвіча)



ВІЛЬНЯ. Друкарня „ДРУК" Субач, 2. 1922.

# ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ

**МАЦЕЯ БУРАЧКА**

(Ф. Багушэвіча).



Выдавецтва У. Знамяроўскага.

ВІЛЬНЯ . · . Друкарня „ДРУК“ . · . 1921 год.

# ПРАДМОВА.

Братцы мілыя, дзеці Зямлі — Маткі маей! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з Вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсё людзі цёмныя мужыцкай завуць, а завецца яна „Беларускай“. Я сам калісь думаў, што мова наша — „мужыцкая“ мова і толькі таго! Але, паздароў Божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць-пісаць, з тэй пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і праканаўся, што мова нашая ёсьць такая-ж людзкая і панская як і француская, або нямецкая, або і іншая якая. Чытаў я цімала старых папераў па дзьвесьце, па трыста гадоў таму пісаных ў нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, як-бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта я часта думаў: „Божа-ж, мой Божа! што-ж мы за такія бяздольныя? —Якаясь маленьная Баўгарыя— са жменю таго народу — якіясьць Харваты, Чэхі, Маларусы *) і другія пабратымцы нашыя і розныя чужыя маюць пасвойму пісаныя і друкаваныя кніжачкі і газэты, і набожныя, і сьмешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баечкі; і дзеткі іх чытаюць так як і гавораць, а ў нас як-бы захацеў цыдулку, ці да бацькі лісток напісаць пасвойму, дык можа-б і ў сваей вёсцы людзі сказалі, што ,,піша па му-

*) Украінцы.

жыцку" і як дурня абсьмяялі-б! А можа і запраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць ня можна? Ой не! Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам і гаворым-жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць пафранцуску, як пасвойму. Нас-жа ня жменька, а з дзесяць міліёнаў — больш і шмат больш не раўнуючы, як жыдоў, напрыклад, або татар ці армян, а пакажы-ж, ваша, хоць адну кніжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцьці нашым, каб панашаму?

Ці-ж ужо нам канечна толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю." Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас такія-сякія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй, а хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсьць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касьцей! А пісаць ёсьць шмат чаго!

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, так і з Польшчай зьедналася добравольная, дык усё яе „Беларусяй" звалі, і не дарма-ж гэта! Не вялікая, не малая, ні чырвоная, ні чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад сканаўньнем, катораму мову займе, а потым зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі. Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы: хто якую носе; ото-ж гаворка *), язык і ёсьць адзежа душы.

*) мова.

Ужо больш як пяцьсот гадоў таму, ца панаваньня князя Вітоўта на Літве, Беларусь разам з Літвой баранілася ад крыжацкіх напасьцей і шмат местаў, як Полацак, прызнавалі над сабой панаваньне князёў Літоўскіх, а пасьле Вітоўта Літоўскі князь Гедымін злучыў зусім Беларусь з Літвой ў адно сільнае каралеўства і адваяваў шмат зямлі ад Крыжакоў і ад другіх суседаў. Літва пяцьсот двадцаць гадоў таму назад ўжо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Днепру і Днестру ракі, да Нёмана; ад Камянца—места аж да Вязьмы, — у сярэдзіне Вялікарусі; ад Дынабурга і за Крамяньчуг, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зерне ў гарэху, была наша зямліца—Беларусь! Можа хто спытае: гдзе-ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мозыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Горадня, Менск, Магілёў, Вітэбск, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...

**Мацей Бурачок.**



# Мая дудка.

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка,
Ад краю да краю!
Ой! то будзе граньне,
Як на павітаньне
І як на вясельле,
Нядоўга тыкеле:
Скора скончу песьні...
Покі дудка трэсьне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы
І выцякуць сьлёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца хмарай,
Туманом па рэчцы
Расой разліецца,
Каласочкі зросе,
Каб жыто ўдалося,
А хлеб зьядуць людзі,
І зноў сьляза будзе.
Ну дык грай-жа дудка!
Каб-жа была чутка.
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!

Зайграй так вясёла,
Каб усе у кола,
Узяўшыся у бокі
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полю —
Аж выючы з болю,
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як хваля на моры,
Як паны на балі,
Каб вот як скакалі!
Каб аж пыл курыўся
Каб сьвет валіўся,
Ды усё круціўся,
Як ў нашага брата
У пьянага хата...
Га! чаму-ж ня грайеш?
Хіба ты ня знаеш,
Ня ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не зьвярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла-ж грай,
Або долю дай!..

. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

Енчыш бяз умоўку!
Не, ня будзе толку!

Кіну-ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га, зраблю-ж другую,
Жалейку смутную, —
Ды каб так зайграла,
Каб зямля стагнала,
Вот каб як іграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жутка,
Вось то мая дудка!..
Вось зрабіў такую!
Дай-жа папрабую...
Ну дык грай-жа, грай-жа,
Усё спамінай-жа...
Што дзень і што ночы,
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй.
І плач што раз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,
Дзень, другі і трэці.
Іграй сьлёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасьць брала.
Як сьлязы ня стане,
Заціхне іграньне.
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам,
Не сьлязой заплачаш,
Як усё абачыш.
Як крыві не стане,
Тагды кончу граньне!

# Дурны мужык, як варона.

Весь сьвет кажа, б‘ець у звоны:
„Дурны мужык, як варона“.
Гэта тыкі справядліва:
Ен дурнейшы ад вароны,
І ня дзіва — было-б дзіва,
Каб мужык, ды быў вучоны.
Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона.
Да навукі ён ня браўся,
Закасіўся, загараўся;
Дурнем памрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык—хамула, —
Ад навукі адвярнуло!
Дык крычыце-ж... (як раней).
Ці-ж ня дурань, мужык гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожжа ні асьмінкі,
А даждаўшы на Каляды,
Мужыкі мякінцы рады.
Дык. . . . (як раней).
Усю зіму возам цягне
Да вагзалу розна збожжа,
Ногі зьмерзнуць, сам засьмягне,
А на хлеб кажух заложа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле выйшаў жывы.
Дык . . . . (як раней)
Ад Пятра і да Якуба
Ен касой махаў ад раньня:
Наклаў стагоў, людзям — люба,
У хаце-ж сена—ані званьня,

Равець з голаду скаціна,
Хоць, кінь, бяжы за вачыма!
Дык.... (як раней).
Глядзі, касьцёл аж да неба,
Воласьць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба,
Бо за гэта яго біта,
А сам жывець ў мокрай яме,
Дзьверы заткнуў анучамі!
Дык.... (як раней).
З камаровы нос сякерку
Сьцісьне, крэкне, замахае, —
Зробіць пушчу, як талелку,
Сьвет дравамі закідае!
А у хаце зварыць страву
Пашчапае стару лаву!
Дык.... (як раней).
Глядзі, горы паразрыты,
А чыгункай сьвет абвіты:
Усё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
ў мужыка-ж няма білета!
Ці-ж ня дурань мужык гэта?
Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

## Як праўду шукаюць.

Як простая праўда згінула у сьвеце,
Дык праўды і з сьвечкай шукаюць,
І золатам маняць і людзей склікаюць,
І Бога цалуюць,—а ўсё такі прэце,
Як камень у воду, так праўда прапала!
Судоў нарабілі, начальстваў цімала:
Пасьрэднік і воласьць, сынод і сэнаты,

Прысуцтвы і вокруг, управы, палаты;
А найбольш міравых, ўчастковых і зъездаў,
Што ў полі каменьня, што гвездаў!
Затое-ж жыцьцё цяпер труднае стала.
У сьведкі ўлезьці, ні села — ні пала,
Ад суду да суду праз лета цягацца
Так лёгка, што навет ня трэба старацца!
Раз еду я ў Вільню адведаць сынка,
Ажно, пры дарозе пасецца кабыла,
Стаіць чалавек якісь ля млынка,
За млынам там сука брахала, ці выла,
І дзесьці „ратуйце“ крычала кабета,
А мостам ляцела якаясь карэта.
І што-ж тут такое было? Мне здаецца:
Хто едзе, хто вые, хто можа сьмяецца...
(А мельнік стаяў у дзьвярох і сьмяяўся;
Чаго ён смяецца,—дык я-ж ня пытаўся!)
Мінуўшы я млын той, еду ўжо лесам, —
Ляжыць чалавек пад кустом ля дарогі
Бяз шапкі і босы, так шталтам*) убогі;
Але я еду з сваім інтарэсам,
Мне няма дзела больш ні да кога;
Ляжачага-ж люду ўсюды ёсьць многа!
Я аглянуўся, аж гоніцца хтосьці,
Кліча: „пастой-жа для Боскай мілосьці!“...
Стаў я, чакаю, аж ён і пытае:
Хто я, адкуль ёсьць і хто мяне знае?
І кажа вярнуцца мне аж да млыну,
Сьведкам ураднік зьве на гадзіну.
Вярнуўся, гляджу, аж карэта у рэчцы.
Мельнік цяпер ужо не сьмяецца,
Кабылу сотнік цягне да стану,
Цырулік кроў кінуў абмокшаму пану,
Дзіра на мосьце так, як на хату,

*) Быццам.

Два хлопцы ловяць сучку кудлату,
Баба стаіць ў парванай спаднічцы
І кроў ёй цячэ па руцэ і па лыдцы.
Вязуць і труп той зараз на возе,
Што я то відзеў ляжачым пры дарозе.
Пытаецца ўраднік мяне ды за сьведка:
Ці мельнік цкаваў, ці крычала кабетка?
Ці сучка парвала? а сучку ці білі?
Ці відзеў, што ў мосьце масьціны пагнілі?
Ці відзеў, як мельнік стаяў і сьмяяўся?
Як пан з хурманом ў карэце купаўся?
Як хурман ўтонуў, а пан ратаваўся?
Як злодзей цікаўся з-пад млыну да коні?
Як сьвіснуў кабылу і ляцеў на Рыкойні?
Ці знаю, хто-то забіты валяўся?
І кім забіты, ды каб я прызнаўся,
Ці не я яго вёз ды посьле уклаў?
Можа меў грошы, можа я іх забраў?
(І дух мне заняў, сказаць слова ня мог!
Вось напасьць на мяне, чысты крыж паслаў Бог!).
Чаму я не хацеў ратаваць хурмана?
Чаму майстра таго не лавіў ля млына?
Чаму сучкі ад бабы кусьлівай ня гнаў?
Чаго я ўцякаў, што ледзь соцкі нагнаў?
Пратрымаў ён мяне нізашто цэлы дзень.
А бадай ты прапаў! Яшчэ даў я рубель,
Ен так спрытна яго запусьціў ў кішэнь.
Я паехаў сабе! Аж у восем нядзель
Соцкі прэць мне павестак і шмат:
У першай сьведкам — як мельнік цкаваў,
У другой сьведкам — што мост бяз прыгат,
У трэцяй сьведкам — як коні хтось краў,
У чацьвертай сьведкам — як пан заваліўся,
Як выплыў наверх, а хурман як заліўся,
У пятай сьведкам — што труп пры дарозе
Быў убіты, а двое людзей уцякалі,

Што я даганяў тых людзей ды на возе,
А яны праз ламы ўдваіх паскакалі!
Аж на шостай ужо дык я стаў вінават,
Што ратунку ня даў, як карэта плыла.
Як я стаў па павестках хадзіць ад Каляд,
Дык асеўся якраз, як Пакрова была...
І ня сеяў, ня жаў, не касіў сенажаць
У арэнду аддаў, бо ня мог дадзяржаць,
І што меў, то прадаў, пераеў,
Па судох агалеў, як шесьць разы зіарэў;
І ў казе адсядзеў нядзель шэсьць,
За няяўку плаціў можа тройчы і штраф.
Як на тое-ж і праўда схавалася гдзесьць.
А шукаўшы яе, і мне здарыўся траф.

## У судзе.

Давялося-ж і мне быць на вялікім судзе,
На акружным судзе, дзе усе ў грамадзе:
Мужыкі і паны, маскалі і жыды,
Хто у чым, як папаў, — ўсё туды ды туды.
Тут кажух, і шынэль, і бурнос, лапсардак,
І сурдут, і мундзер.., а адзін быў і храк, —
(Так як куртка з хвастом) і брадзяжка была...
Прыйшлі ўсе, і Пантурчыха навет прыйшла...
Быў кут ксёндз, быў і поп, быў і рабін жыдоў.
Толькі наш аліндар, — той чагось ня прыйшоў.
Самы суд за шырокі сеў стол ўпяцярох,
Шосты ходзіць сабе, — ўсе ў залатых каўнярох.
Як дукат на дукат, так на іх зігаціць!
(Каб я быў так багат — не хацеў-бы судзіць),
Па аднэй старане душ чтарнаццаць сядзіць,
Па другой—арыштант—той, што будуць судзіць,
А прад ім — без палы, толькі хвосьцік вісеў —
Адвакат, што то меў бараніць, той сядзеў.

Арыштантам тым быў наш Пятрук Пантурок,
Што у пушчы гдзесь меў патайны браварок.
А акцызьнік Яськоў браў з яго кубана,
Дый данёс, дый злавіў, як той воўк барана:
І акцызьнік той быў, прысягаўся і ён,
Як яму хтось данёс, як сачыў ён пяць дзён,
Як кацёл там кіпеў, як гдзе брага была,
Як Пятрук не пасьпеў уцячы ад катла...
А брахаў дык брахаў і сябе ўсё хваліў,
А таго-ж не сказаў, як Пантурку даіў.
Потым нас па адным сталі ў суд выклікаць.
Прысягаўшы на тым, трэба-ж праўду казаць!
Тут пытаюць мяне, а тут жаль Пятрука;
І мая у яго там прапала мука,
І я думаў сабе выгнаць водкі з вядро
На вясельле дачкі (вот было-бы дабро),
Ды завёз Пятруку дзьве асьміны мукі,
Дык якраз на той час наляцелі-ж „крукі“,
Ды мяне-ж павялі у той лес панятым,
Каб ім дна ня было і акцызьнікам там!
Як спыталіся ўсіх, — прачыталі той „ахт“:
Што злавіўся Пятрук (а набрэхана-ж — страх)
Там такое стаіць, што і ў думцы няма;
Паравік, зьмеявік і якаясь шляма...
Прачыталі ото і яшчэ там папер;
Пагляджу-ж, кажу я, што-то будзе цяпер?
Прадсідацель сказаў: „пяць мінут перарыў“!
І ў каморку шмыгнуў, толькі кніжку закрыў.
І усе падняліс і пайшлі, хто куды;
Я застаўся сядзець, усё роўна — з нуды.
Як вярнуліся зноў, дык адзін той устаў,
Што сядзеў на канцы і найболей пытаў:
Паглядзеў на усіх, як узяўся за стол,
Як зачаў ён крычаць: „прытакол, прытакол!“
І казну спамінаў, і трубу, і кацёл,
І муку, і мяшок... — ды усё — „прытакол!“

Я сяджу і дрыжу, каб мяне не назваў:
Калі брасьць! і я тут!—А бадай ты прапаў!...
Але хваліць мяне, справядлівым заве,
На Пантурку-ж зіркне, — як скаціна раве:
„Вінават, вінават, няхай плаціць казьне‘„
І ў турму і ў Сібір! і яшчэ кудысь пхне...
Гаварыў, гаварыў, ажно піць захацеў:
Так, як бульбу, Пятра пасаліўшы-бы зьеў.
А сказаць-бы, зашто? — за сваё за дабро:
Чалавек захацеў зрабіць водкі з вядро:
Што-ж за наўда яму, каб ён сьвету ня знаў,
Ці Пантурка зьеў блін, ці гарэлкі нагнаў?
Потым стаў вылічаць сваё страты акцыз:
Той дык так-бы зубамі Пантурку загрыз!
Налічаў, налічаў, — і двайну і трайну;
Як шынкар у карчме тваю чарку адну.
І начыньне забраць, і худобу прадаць,
Што ў казну, то ў казну і яшчэ камусь даць.
Тысяч тры там, ці што, налічыў ён пяні.
(У Пятра-ж каб хоць грош, быў які ў кішані. —
Смашны жабе гарэх, ды зубоў Бог ня даў —
Каб акцыз тое меў, што ў Пантуркі забраў;
Дзьве казы прадалі, ці сярмягу, ды воз,
І то брат адкупіў, а назаўтра адвёз).
Аж ня сьцерпеў той пан, што у куртцы сядзеў;
Пятруку штось сказаў, акуляры надзеў.
Калі-ж крыкне-зыкне, аж затросься той суд.
„Гдзе тут, кажа, віна, чым Пятрук вінен тут?
„Што скацінку карміў працаваным дабром,
„Насіў брагу з двара на насілах вядром?
„Тут турму, тут і штраф для акцыза схаваць“...
Як зачаў гаварыць, як зачаў бедаваць,
Дык Пятрук і ня гнаў і у лесе ня быў,
А то я вінават, я сам гнаў і падбіў,
І данёс на яго... Вінават я увесь!
А бадай ты прапаў, а бадай цябе рэзь! —

Як ката да гары, так ён дзело скруціў,
На мяне набрахаў, Пантурка зашчыціў.
Я гляджу, што тут -- куц, — прападу як сука,
Бо мяшок тыкі мой ды мая-ж і мука!...
Калі дзьверы скрыпель, а я—шусьць—праз людзей,
Ды на двор, ды ў карчму, да кабылы бардзей;
Прыляцеў аж у дом, бурачкоў трохі зьеў,
Сказаў жонцы „маўчы-ж!“ сам у лес паляцеў:
На тым месцы, гдзе быў браварок Пантурка,
Дай садзіць дзераўцы, аж самлела рука.
Сьцежку мохам заклаў і сьлед той так закрыў,
Што ніхто-б не пазнаў, гдзе і бровар, ці быў.
Ды ізноў аж на суд, а суда ўжо няма,
Толькі плача, кляне Пантурчыха сама.
Пантурка адвялі тыкі зараз у астрог;
Той куртаты зашчыт, як кадзіла памог.
Я-ж якось уцалеў ад суда на той час.
Каб-жа Бог не давёў на той суд другі раз!

## Воўк і авечка.

Злавіў воўк ягнятка
І панёс жывое!
Плачуць сын і матка,
Як бабры абое.
Воўк над маткай зьлітаваўся,
Як які аконам,
У аўчынку перабраўся
Ды ідзець з паклонам.
,,Прыйшоў, кажа, я здалочку
Расказаць пані авечцы
Добру вестку аб сыночку: —
Як яму цяпер жывецца.
Не пазнала-б ты ніколі,
Такі стаў дасужы,

І жывець сабе на волі,
Без бяды. бяз нужы,
Зубы вырасьлі з клыкамі,
І адпалі рожкі,
Ножкі цяпер з кіпцюрамі,
Хвост даўжэйшы трошкі.
І ўжо воўка не баіцца,
У хлеў ніхто ня гоне;
Мае чым абараніцца,
І другіх бароне!
Прыйдзі, імасьць, да нас у госьці,
Справім сабе вечарынку:
Будзе мяса, будзе косьці,
Будзем есьць без адпачынку!“
— „Дзякуй, дзякуй ягамосьці
За весьці такія!
Няхай прыйдзе сын у госьці,
Пагляджу ці вые?
Бо кажуць, між вамі
Трэба выць ваўкамі.
Я-ж павоўчу ня умею
Ні выць, ні есці, ні лгаць.
Ды скінь скурку, дабрадзею,
Бо... зубкі відаць“.

І авечка, хоць дурная,
А ваўка-ж пазнае!

# Мая хата.

Бедна-ж мая хатка, расселася з краю,
Між пяскоў, каменьняў, ля самага гаю,
Ля самага бору, на беражку лесу:
Ніхто тут ня трапе, хоць-бы з інтарэсу,

Як няма гарэлкі, няма куска хлеба,
Дык які-ж інтэрас, каму сюды трэба?
Ды хоць няма хлеба, жабраваць ня буду,
Пражыву якколвьвек ад працы, ад труду.

Кепска-ж мая хатка, падваліна згніла,
І дымна і зімна, а мне яна міла;
Ня буду мяняцца хоць-бы і на замкі,—
Калок свой мілейшы, як чужыя клямкі.
На страсе мох вырас, на імху бярозка, —
Мільшая мне хатка, як чужая вёска...

Сваталі-ж мне ў прыймы у новую хату,
На зямлю раджайну і дзеўку багату;
Буду жыць, казалі, як які пасэсар,
Езьдзіць парай коні, як сам пан асэсар;
Ды мне даражэйшы вугал гэтай гнілы,
Камень пры дарозе, пясок ля магілы,
Як чужое поле, як дом мураваны! —
Не аддам за сурдут каптан свой падраны.

Клікалі-ж у госьці і клічуць суседзі; —
Не пайду, ня трэба, бо кажуць заедзі,
Ад чужога хлеба драсны абсядаюць,
Што чужога прагнуць, то свайго кідаюць.
Я ня кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,
Не пайду да вас я, хіба у арэшце.
А хоць сілай навет адарвалі-б з дому,
Калісьці вярнуўся-б, як мядзьведзь да лому.
Заваліцца й хата, зарастуць пакосы,
Усё-б я вярнуўся, хоць голы ды босы!
Насёк-бы бярвеньняў, нацягаў-бы моху,
Зноў-бы склеціў хату якколвьвек патроху,
Зрабіў-бы камору, выкаваў-бы жорны, —
Усё-ж свой хлеб еў-бы, хоць-бы сабе чорны!
Ну дык жа адстаньце, на што я вам трэба:
Ці каб ваш хлеб есьці, ці рабіць вам хлеба?

# Праўда

Ой цяжка, цяжка.
Не сярмяжка цяжка,
Але з гэтай доляй,
А усе што раз болей.

Ох, цяжкая-ж доля! От так бы здаецца,
Скрозь зямлю прапаў-бы ці ў сьлёзы-б разьліўся!
Ці мне жыць на сьвеце, ці мне куды дзецца?
Ой Божа-ж мой, Божа, нашто-ж я радзіўся?!
Ой, нашто-ж мне дана тая мая мова,
Як я ня умею сказаць тое слова,
Каб яго-то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разыйшлося то слова па сьвеце,
Як праменьне сонца цёплага ў леце,
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі,
Так як тыя дзеткі на сьвятой нядзелі;
Каб-жа тое слова ды людцоў зьеднала,
Каб на тое слова ворагаў ня стала,
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся-б доляй і хлеба шматамі;
А без таго слова я нямы калека!
Хоць-бы занямець мне і да канца века!
Ой нашто-ж мне вочкі, ой нашто-ж мне ясны?!
— Каб глядзеў, які я ад усіх няшчасны?
Каб душа балела, гледзючы на долю,
Каб сэрца шчымела і рвалося з болю?
Каб было чым плакаць і у дзень і ў ночы?!
Ой Божа-ж мой, Божа, вазьмі-ж мае вочы!
Нашто-ж тыя вушы, як ня чуць нічога
Ні ад людцоў добрых, ні з неба ад Бога?
Ой ці не на тое-ж, каб чуць людзку лайку,
Ды тую плакучу дудку самаграйку,
Нашую жалейку, што енча ня йграе, —
Хоць як выйгравай ты, а яна смутная?
Ой ці не на гэта-ж, каб чуць, як зьвякаюць

Ланцугі на людцах, што з хат уцякаюць.
Ня зьдзекуйся-ж, Божа, нада мной, над імі:
Парабі усіх нас, як камень, глухімі!
Вазьмі усе змыслы, покі прыйдзе Праўда,
Бо жыць без яе нам не вяліка наўда!
Прасіў Бога ласкі: „адвярні ты, Божа,
Злую нашу долю на сухія пушчы,
Адвярні на камень, ці на бездарожжа,
На вялікі ройсты, на пяскі сыпушчы,
Ды каб не зазнала ні вадно стварэньне
Гэтай долі нашай да веку сканчэньня!
Не пачуў ён енку, ня увідзеў мукі,
Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!
Прасіў я суседзяў са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несьці, як «з Богам ня біцца».
Асьмяялі людзі мяне, як дурнога,
Там, казалі, праўда, тут тыкеле сіла!
Даўней, кажуць, праўда па сьвеце хадзіла,
Жабруючы-ж зьмёрзла, а людцы схавалі,
Каменем накрылі, зямлю пааралі,
Каб ня чуць, ня ведаць аб ёй ані весьці,
Ды цяпер і кажуць: „Праўда ў небе гдзесьці!"
Ды пашлі-ж ты, Божа, Праўду сваю тую
З неба на зямельку сьлязьмі залітую!
Пасылаў ты Сына, Яго не пазналі:
Мучылі за праўду, сілай паканалі,
Пашлі-ж цяпер Духа, ды пашлі бяз цела,
Каб уся зямелька адну праўду мела!

## Здарэньне.

Ехаў я раз ад Кіяны
Ды ў Смаргоні, і ня п'яны,
І даехаў да Ваўкелы,
А конь добры быў, мой — белы.

Тыц! стаў конь наравіцца!
І храпіць, і дыба стаў,
Што ня можна прыступіцца,
Чуць аглоблі не зламаў.
Гляджу: бочка ля дарогі...
Чыста-ж бочка, толькі рогі
Як-бы трохі відаць збоку.
Думка: вёз хтось ды здалёку,
Як прыстаў дык, скаціўшы,
Сам начуе гдзесь у вёсцы,
Або можа быў падпіўшы —
Страціў бочку пры дарожцы!
А што ў бочцы? хто там ведаў?
Можа брага, можа водка!..
А я той дзень не абедаў,—
Вось, каб, думаю, сялёдка?!
Або каб алей Бог даў-бы,
Ужо-ж ня сьцерпеў-бы, украў-бы!
Ото-ж думаю, закрашу:
Надта я люблю з ім кашу.
Падыйшоў да бочкі, зрухаў,
Калі адаткнуў, панюхаў,
Аж з радасьці страпянуўся,
На ўсе бакі аглянуўся!
Ну сьвяжусенькім алеем
Смак пачуў па губе, носе!..
Хоць ня быў яшчэ зладзеем,
Але-ж тут дык давялося.
Так ужо я чагось рад,
Падвярнуў свой панарад,
За ўторы падняў бочку,
Абпёр яе на лучочку...
А конь, смык, — падаўся ўперад.
А бадай табе тут верад!
Падкаціў я бочку зноў,
І якраз ужо навёў,

А конь, смык, — назад, ды тоўк!
А бадай цябе тут воўк!
Я ізноў давай каці...
Здумаў—лепей распрагчы.
Узяў каня, як сьлед распрог,
Зірк—аж конь мой і бяз ног.
Конь-ня-конь, а зэдлям стаў:
Я спалохаўся, пеHowever еражагнаў...
Дык зноў конь і сам запрогся;
Я спалохаўся, і змогся,
Скінуў вопратку, пеэражагнаўся,
Зноў тыкі за бочку ўзяўся,
А так цёмна—хоць коль вочка.
Калі гляну то-ж ня бочка,
А каза стаіць з рагамі!
Хвост, бародка і з нагамі...
Аж тут пятух калі крыкне,
Каза ў лужу калі скікне,
Калі ў лесе зарагоча,
Конь да хаты калі скоча...
Вот тут я і дагадаўся,
Каму ў рукі то папаўся.
Давай казаць „Анёл панскі,
Згінь прападзі дух шатанскі!“
І цяпер, як хто сьмяецца,—
Мне усё каза здаецца.
З таго часу да алею
Я ня мог душу прымусіць,
Адвярнуло, дабрадзею.
Так то чорт нас грэшных кусіць!
Каб ня крыж,—прапаў-бы мусіць?

## Немец.

Ня люблю я места (парасейску—горад):
—Надта там цяснота і вялікі сморад,
А паноў, як маку ды сярод гароду,

Апроч таго пропасьць рознага народу!
Наш брат як увойдзе,—сам сябе баіцца:
Ці ісьці бяз шапкі, ці гдзе пакланіцца,
Дык надта-ж і стыдна, каб ня памыліцца:
Пакланіцца немцу, ці якому жыду!
Няхай яго сточа—набярэшся стыду;
Няхай лепей з дому ў той дзень ня выйду,
А пазнаць-жа трудна, як жыда, як немца,
Як пана якога, ці там чужаземца,
А што жыд ды немец—дзеці аднэй маткі:
І мова падобна і адны ухваткі, —
І абодвы ласы на чужую працу,
І мусіць абодвы ядуць разам мацу!
Абодвы абдураць, абдзяруць як ліпку,
Адбяруць і сошку за бітую скрыпку.
Пан наш нябошчык (няхай яму сьвеце),
Як памёр чацьвёрта вясна то, ці трэця,
Як яго скруцілі, чыста абадралі,
Глядзіць—будзе кепска, што тут рабіць далей
—Усё пусьціў арэндай; найперш пусьціў жыда
У млыне сеў немец, якаясь абрыда, —
Граўшы па дарогах, прыйшоў з заграніцы,
Прынёс толькі торбу і ў ей дзьве скрыпіцы.
Двор купіў хтось рускі, так як за дурніцу,—
Пан зыйшоў далёка, кудысь заграніцу!
Жыд зараз убіўся ў рускага ў ласку:
Што дзень ходзіць ў лесе ад самаго браску...
От ходзіць ён гэта, ды ўсё дубы ліча,
Як трэба і грошы рускаму назыча,
А як аблічыўся, ды дубы абмераў, —
У восені выгнаў з тысячу сякераў,—
Счысьціў пушчу чыста, за пяскі ўзяўся,
Як кабан разьеўся, ды як пан зазнаўся,
Гавора паруску і з рускім гуляе,
Разам ляжа, ўстане і ўсім упраўляе!
Рускі сабе езьдзе, ня ў дому ніколі,

Немец усё меле, ды ходзе па полю,
Наеўшыся мяса, півам запівае,
У сьвята-ж на скрыпцы, аж пішчыць іграе.
Здаецца-б, нічога! калі хто ня ведае,
Але пачакаўшы, дык выйшла камэдыя:
Жыд купіў у месьце сабе камяніцу,
Глядзім — наш рускі кінуўсь за граніцу:
Пакінуў і жонку, адрокся і дзеці;
Зьявіўся пан новы (гэта ужо трэці)...
А якіб-то пан той?... Ну, ці хто павера?...
Гэты-ж самы немец! каб яго халера!
От цяпер згадай-ты — хто кім калі стане?
Аб пану ні весьці, ні слыху, ні званьня.
Жыд панам зрабіўся, немец, яшчэ горшы!
А мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы!
Так і на гародзе: лебяда, крапіва, —
Толькі вырві рэпу, — дык зарастуць жыва.
Так як чорт насее! Ото-ж так і людзі:
Тутэйшы загіне, дык вораг прыбудзе!

## Думка.

Чагось мне маркотна, на плач забірае;
Мусіць, душа чуе якоесьці гора,
Ці штосьці зрабілась... што? А хто яго знае:
Ці град жыта выб'е, ці згіне абора,
Ці ўраднік загнявіцца, пагоне падводу,
Ці знойдуць у лесе крадзену калоду?
Ці можа ўмрэ сын той, што маскалём служыць,
Ці той, што ў Мэрыку падаўся, ды тужыць?..
Так цяжка, здаецца, каб граху не баяўся
Ці ў пятлю палез-бы, ці ў ваду схаваўся!
Летась мне было так—і валы прапалі,
Сьвіньні бульбу зьелі, гарод пакапалі,
Нябошчыца матка чыста захварэла,

І дзядзькава хата з комінам згарэла;
Сукна не звалілі—хадзіў без сярмягі,
А тут і бяз хлеба... прападаў ад смагі!
Хоць бы скарэй стала, што ўжо стацца мусі,
Каб так не цягнула за сэрца, як ліна;
Бедаваць ня церпа, я і не баюся:
Няхай усё згіне, дык душа-ж ня гліна!
Тагды-б ужо ведаў, як і ратавацца,
Ці там ад няшчасьця, ці з людзкой напасьці,
Ці сядзець у хаце, ці куды падацца,
Ці, зложыўшы рукі, на векі прапасьці!..
Ды што-ж мне да тога, чаго мне журыцца?
У мяне ня будзе,—знайдуць людзі хлеба:
На бяду мне плюнуць, Богу памаліцца,
Да слушнага часу дажыву, як трэба!
Вунь стаіць бярозка, тут ля самай хаткі,
Косы папусьціла... плача, кажуць людзі,
А мне так здаецца, што ёй ані гадкі:
Што было—ня помніць, ня ўзнае, што будзе.
А можа-ж і помніць, як то я калісьці
Быўшы малым хлопцам, лазіў, калыхаўся;
Яна была гібка, болей было лісьця...
І я ўжо ня мог-бы, як тады, спінаўся.
Чаго-ж мне маркотна? ты скажы бярозка?
Маўчыш, як нямая і сама смутная!..
Мусіць такі праўда—гэта яе сьлёзка,
Што кажуць другія—капля расяная.
Мне жаль і бярозкі, чаго-ж яна плача,
Калі ўжо долі не пераінача?
Ня тужы, бярозка, сьвет з намі ня згіне,
Вецер, як павее, шышачкі раскіне,
Хоць-бы ты засохла, — вырасьце вас болей...
Перастанем плакаць мы над сваёй доляй!
Якось яно будзе, дажывём да дошкі,
Хоць лепей, хоць горай, абы ня так трошкі!
Шышачкі раскіне, як параскідала

Маіх шэсьць сыночкаў —здаецца, ці мала?
Усе разыйшліся! — Адзін у наборы,
Адзін пайшоў ўпрочкі, за чорныя моры,
Адзін за Дунаем саўсім асяліўся,
Адзін у Сыбіры—з старшынёй пабіўся:
Пяты па пісарстве гдзесь у Патарбурку,
Кінулі ў хаце вот крывога Юрку!..
Ну ды рана-позна, тыкі мне здаецца,
Кожны занудзіцца, да дому прыб'ецца...

## З кірмашу.

Гэй, ляці, кабыла, хоць ты падарвіся,
Бо мяне чакае там мая Людвіся,
Чакае, чакае, аж выйшла за дзьверы,
Вот ужо і поўнач, а ня есьць вячэры.
Зварыла зацірку, дык аж гоне сьлінку,
Малачком зьбяліла, як тую сьняжынку!
Гэй, ляці-ж, кабыла, па пнёх, па каменьнях,
Бо яна чакае ўся ў пламеньнях,
Уся ў пламеньнях ад аднэй мілосьці!..
Гэй, ляці, кабыла, каб ня ўсьпелі госьці.
Гэй, басуй, басуй-жа, мая ты кабыла,
Каб жонка ня спала, дзьверы адчыніла.
Маскалі-ж у вёсцы яшчэ не паснулі,—
Праляці-ж, кабылка, каб яны ня чулі!
Рві, кабыла, жыва, вязу я гасьцінчык;
Ці хустку чырвону, ці валовы бічык;
Гэй, вязу гасьцінчык, вязу кірмашовы,
Ці новую хустку, або і біч новы!

## Падарожныя жыды.

Што крук круку ня выдзюбае вока,
То ведама даўно і ведама далёка;
І гдзе крапчэйшыя дзяруцца,

Дык слабшыя няхай-жа ня суюцца,
Бо ўжо чубы напэўна што парвуць,
Калі яны адзін другога не паймуць.
З двох мястэчкаў два падвозцы
Двох жыдоў вязьлі напроці;
Спаткаліся-ж на вузенькай дарожцы
І ніводзін ня ўступае па ахвоце:
Той кажа: „парха ты вязеш, дарогу дай!“
А той крычыць: „ты пана мне ня лай,
Бо я твайго і біць гатоў!..“
І біч смалёны тут завёў,
А той у рукі ды бічышча...
І замахалі так, аж сьвішча!
Жыдкі ў просьбу, каб гадзіцца,
Куды табе! — Ні прыступіцца;
Так б'юць, аж кроў цячэ жыдом!
„Ты б'еш майго, а я твайму аддам!“
І можа-б так на сьмерць пабілі
Дык хітра-ж і жыдкі зрабілі:
Той перасеў таму на воз, а той туды.
І так заехалі абодвы без бяды;
І мужыком так стала бліжэй дому
І крыўды ніякой нікому.
Пазналіся жыдкі, пагергаталі
Дык мужыкі і біцца перасталі!
А што? каб так і мы зрабілі,
А можа-бы і нас ня білі?

## Хрэзьбіны Мацюка.

Калісь, як у нас казакі то стаялі,
У „Шнюрах“ за горкай раз мяне спаткалі
Сказаў „пахвалёны“, а яны сьмяюцца,
Адзін штось сьпявае, іншы дзьме на дўдцы,
А старшы скіпеўся: „ты што за адзін?“
Думаю: хто-ж я?--ужо-ж Юркаў сын!

„Тутэйшы", кажу я, „свой чалавек:
„Сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,
„Тут і радзіўся, тут і жыву век;
„Юркам зваць бацьку, а я дык Мацей.
„Вун гдзе і хата і выган і сад;
„Там жнецъ мая жонка, а тут гарэць брат!"
Ен кіпіць горай, пытаючы лае,
Крычыць і б'ецца і ў твар штурхае.
„Ды хто ты, ды хто — ці рускі, ці не?
Я дай круціцца туды і сюды,
Думаю: што-ж сказаць яму мне?
„Я не нашу, кажу, барады".
„Да ты", ён кажа мне, „веры якой?"
„Ці ты праваслаўны, ці ты паляк?"
«А дайце-ж, паночку, кажу, мне пакой,
«Ды я-ж тутэйшы, як казаў дык так!.."
Як сьцебане праклятый мяне,—
Аж у вачох чырвона здалося!
Каб я-ж у чымкольвек, у якой віне,
А то і ня ведаць, скуль узялося?
Я кажу гэтак: «калі-ж ужо так,
„Што васпан б'ешся бяз-дай прычыны,
«То мусіць і праўда, што я паляк
«І буду паляк ад гэтай гадзіны!»
Ну і далі-ж мне добра на знак:
Цягнулі б'ючы аж у Замаслаў,
Каб помніў крэпка, што я паляк,
Каб і вам гэта здарэньне сказаў!
Тое прайшлося, пайшлі і казакі;
Калі пад восень завуць нас у збор:
«Прыехаў, кажуць, начальнік такі!
«Сам князь Хаванскі: ідзіце ў двор!»
Трэба ўсё кідаць (хоць сьвятам было).
Народам, як макам, ўвесь двор заліло:
Князь у палетах, вясёлы такі!
«Эх, кажа, рэбяты! — вы дуракі!

„Што ў рускай зямлі, дый каталікі!
„Ну, цар вас прыймае у сваю веру;
„Дасьць зямлі многа!... Вы, на паперу,
„Тут падпішыце, а поп посьвеньце, —
„Будзе ўсё добра, усюды пашэнце
„Ну, братцы, выпьем па чарцы усе;
„Бацюшка крыж і крапідло нясе!“
Мы-ж толькі, зірк, адзін па другога,
Маўчым, трасёмся, ня кажам нічога:
Ен жа Мірона за плечы узяў,
Вядзець да стала, гарэлкі падаў:
„Пі на здароўе і так пішы:
„Вот сабраліся дзьве тысяч душы,
„Рускую веру хочам прыняць,
„Каб каталіцкай ні ведаць, ні знаць...“
Мірон папярхнуўся, як хуста зьбялеў
Глянуў на ўсіх, на мяне паглядзеў —
„Як, кажа, людзі, так, кажа, і я,
„Спытайце, кажа, вун Мацея,
„Як ён ды скажа перавярнуцца,
“Дык усе вёскі на яго здадуцца“.
Цягнуць мяне да таго князя,
А тут аж мурашка за скурай лазе.
— „Ну што, маладзец, нап‘ёмся водкі?“
Даець мне грошы, такі салодкі:
Усё гавора, радзе, пытае,
Жонку цалуе, дзяцей гайдае.
— „Ну што-ж надумаўся, ці ўжо гатоў?...“
„Надумаўсь, кажу, каб сто катоў
„Дралі мне скуру, пяклі на агню,
„Я веры сваей тыкі не зьмяню!“
Іх! закіпеў тут той князь, аж зароў,
Аж вылупіў вочы, счырванеў, як кроў...
— „Розаг падайце, нагаек, сто лоз!“
„Ен з веры сьмяецца мне тут-жа пад нос!“
Хапілі мяне якісьць гайдукі,

І розаг падалі чатыры пукі.
І бьюць—не баліць, хоць за сэрца бярэ:
За што-ж ён пракляты мне скуру дзярэ?
Як крыкну я гэта: „эй, бійце-ж мацней,
„Мацнейшы ад веры вашай Мацей!"
Вот так то хрысьцілі мяне казакі
З тутэйшага ды ў палякі!

## Бог ня роўна дзеле.

Бог сіроты любіць, але долі не дае. (Прыказка).

Чым то дзеецца на сьвеце,
Што ня роўна дзеле Бог? —
Адзін ходзіць у саеце,
У золаце з плеч да ног,
А другому каб прыкрыцца
Хоць ганучай,—велькі труд;
Увесь як рэшата сьвяціцца,
Адны латы, адзін бруд!
Адзін мае хатаў многа,
А вялікіх,—касьцёл мой;
Увясьці-б туды хоць Бога,
І той-бы з іх не пайшоў.
У другога ў сьцяне дзюры,
Вецер ходзе, дым і сьнег;
Тут карова, сьвіньні, куры...
Тут пакута, тут і грэх!
Гэты едзе у вагоне, —
Цёпла, мягка, толькі жыць!
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі сьпіць!
Той ў мяцеліцу, у марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,

У сьнягу увесь па брух!
Гэты хлеба і ня знае,
Толькі мясо, ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што ня змог.
А той хлеб жуе з мякінай,
Хлёпча квас ды лебяду,
Разам жывець і есьць з сьвінкай
З канём разам пьець ваду!
Аднаму дзесяткі-служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго, як падушкі,
Як кісель, дрыжыць жывот!
Другі-ж сам аж на дзесятак
Працуючы лье свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

# Хцівец і скарб на Сьвятога Яна.

Пры выгане ў вёсцы, ў самай перагонцы
Была хата крывенька у адно ваконца;
У хатцы адзінокі жыў хцівец лянівы,
Што думаў бяз працы зрабіцца шчасьлівы.
У грошах, ён думаў, усё людзкое шчасьце.
А ён-жа павінен гдзесьць скарб напасьці!
За мілю-ж, за вёскай быў лес закляты;
А хціўцу-жа лес той, якраз процi хаты.
У тым лесе заклятым не расло нічога,
Праз яго ніколі ня ішла дарога;
Баяліся людзі у той лес заходзіць,
А як хто заблудзе,—чорт па тры дні водзіць!
Пьяны хцівец йшоўшы з вясельля да дому,
У той лес убіўся, залез сярод лому:

Вот стаіць ён гэта, клянець,—праклінае,
Калі гляне воддаль, --сьвятлачка мігае,
Думаў, хата блізка,—ці хтось пасець коні,
Кінуўся на сьвятло, прайшоў- можа гоні,
Аж глядзіць, агонь той ды з зямлі бярэцца,
Хоць гарыць—ня паліць; ня можна й сагрэцца.
Спалохаўся хцівец, аж працьверазіўся,
Сам не аглядзеўся, як і апыніўся
Аж у сваей хаце, аж на печ забіўся!
    Назаўтра па вёсцы аб усім аб гэтым
Вестка абляцела, як папер штахэтам.
Адзін скажа—верне, другі праінача,
А кожны па свойму здарэньне тлумача.
Адзін кажа: пэўне маланка блістала,
Дык пьянаму хціўцу у вачох і стала,
Другі: што то сьветласьць з магілкі сьвятога,
Пэўне хцівец будзе шчасьлівы у Бога.
А другія кажуць, што то скарб закляты,
Што хцівец, як знойдзе, дык будзе багаты!
    А хцівец дай думаць: як-бы тут разжыцца,
Хоць-бы гэтым скарбам з чортам падзяліцца.
І сядзіць на прызьбе ці ў сьвята, ці ў будні, —
Калі раз пад вечар вылазе чорт з студні!
Апратка нямецка, сперады куртата;
Капалюх высокі, як жыд носе ў сьвята,
Портачкі як дудкі, сам якісь цыбаты,
І шкляныя вочы, ззаду хвост куртаты...
Хцівец дагадаўся, што то за пасланец,
Са страху затросься, як той паганец;
А тыкі пытае, трохі ачуняўшы:
„Хто-ж такі панічык?“ нібы не пазнаўшы.
— „Ды я ня тутэйшы, пліпатэнт *), здалёку,
„Душы закупляю для пана што року“.
— „А ваш пан багаты? ці дорага плаце?

---

*) пленіпотэнт—камісар.

— „Іх! кажа, мільёны ён на гэта траце,
„Яму трэскі а грошы, што грошы то трэскі;
„Усякага купіць, абы толькі кепскі!“
— „Нашто-ж душы кепскія, здаецца?“
— „Э! бо добры у добрым псуецца!“
— „Ці-б то мне ня можна прадацца вашэці,
„Каб я быў багачшы ад усіх на сьвеце?
— „Можна“, кажа, немчык: „а чаму-ж ня можна?
„Цераз майго пана нігды не парожна,
„Пры сабе ня маю, але вун, у пушчы,
„Ляжыць скарб закляты за ройстам у гушчы,
„А там, на засьценку, ёсьць ведзьма старая,
„Пакажа, як браць скарб, яна усё знае!
„Наша душа, твае грошы!“ І запісаў штосьці,
А сам кінуўся аб зямлю, забражджэлі косьці,
Віхрам закруціла і ён зьнік, як пена.
Хцівец зьвяк на камень, аж пабіў калена,
Спалохаўся чыста, што аж пражагнаўся,
Навет плюнуў тройчы, злажыў тройчы фігу,
Але чорт закрэсьліў душу сабе ў кнігу!
Вот назаўтра хцівец прад усходам рана
Ляціць да тэй ведзьмы, казаў-бы да пана.
Вот ужо і блізка яму да засьценку...
Стала чагось страшна! Ідзець памаленьку:
Аж скуль узяліся, як туман з дубровы,
Крукі і вароны, сарокі і совы,
Ды як сталі кракаць, галасіць—сьмяяцца, —
Хцівец аж схітнуўся, каб назад падацца
Узяў камень, калі пусьце, калі уцяробе,
Ды трапіў ня ў птушку, а сабе па лобе!
Аж зарагаталі каменьня па полю,
Аж сыпнулі сьлёзы у хціўца ад болю.
Давай таптаць лапцям камяні са злосьці...
Калі гляне—ведзьма!—Адны толькі косьці!..
Калі гаркне хціўцу у вароньне горла:
„Якаяж-то немач цябе тут прыпёрла?

-- „Маю інтарэсы, кажа, да вашэці,
„І даўно прыйшоўбы, каб не твае дзеці“...
А яна праз комін глядзіць і гавора:
„Я цябе чакала, але не так скора.
„Не рабі мне глуму, а ідзі у сені,
„Але зажмур вочы, вывярні кішэні
„І паўзі на брусе, ды наперад задам,
„Пад сьцяну пралезеш яшчаркай, ці гадам“.
Увайшоў ён гэтак у тое мяшканьне,
Аж спацеў-са страху! — калі гэта гляне,
Паўнюсенька хата птушыных галовак,
Скрыдэлак, і ножак, і цэлых паловак:
Там сьвішчыць, там вішчыць, то крэкча,
Гэтая стогне, а другая клекча,
А ведзьма як крыкне каршуновым басам,
Дык усё замоўкла зараз тымжа часам.
„Ну, кажы-ж, што трэба? Мусі ці ня грошы?
„Бо віджу, для нас ты чалавек харошы“.
— „Эгэ ж, кажа, да скарбу хацеў-бы дабрацца,
„А, ваша, дык знаеш, як за яго ўзяцца“.
— Відзіш, які ласы? шак гэта ня жарты!
„Пагляджу я первей, ці ты яго варты;
„Задам тры работы, — як выдзержыш пробу,
„Дык забярэш скарбы, а не, — дык хваробу!
„Нанасі-ж пазногцям мне зады вядзерца, —
„З маленькіх пылінак, вот па гэтай мерцы,
„Пастаў стоўп высокі, ды як волас ценькі,
„І зьлічы лісточкі на ўвесь лес гусьценькі!“
Мусіць тут і немчык тыкі памог трошкі,
Досьць што крутам-мутам выпаўніў да крошкі
Адкуль і ахвоты, і розуму стала?
Усё зрабіў хцівец, што ні загадала.
Ведзьма яго хвале, гладзе па галоўцы,
Падала вячэраць чагось у латоўцы;
Здаецца яешню і з савіным шмальцам,
Сама яго корміць, папіхае пальцам...

Потым таго кажа: „Калі ты, лядачы,
„Захацеў так скарбу, дык ідзі-ж уночы
„У лес перад Янам, каб ні брэх сабачы,
„Ані сьпеў пятушы, ані людзкі вочы
„Ня былі ў прашкодзе. У папарáць сядзеш,
„Хустачку пасьцелеш, добранька разгладзіш,
„І чакай паўночы. Папарáць дасьць кветку,
„Ты струсьні на хустку папраці ветку,
„У хустку завяжаш кветачку ты тую
„І будзеш мець скарбы, калі пашанцуе.
„Толькі, дзяцюк, слухай: каб ты не жагнаўся
„І нясучы скарбы, каб не аглядаўся!“
Хцівец дачакаўшы прад сьвятога Яна,
Зайшоў ў лес далёка ад самага рана,
Выспаўся зá сонца, вечарам памыўся,
І сабе чакае ці скора паўночы,
Паставіўшы слупам на папарáць вочы;
Толькі, зірк: па лесе кажаны, як мухі,
Каля яго круцяць, поўзаюць рапухі,
Гадзіны суюцца, а совы галосяць,
Ваўкі страшна выюць, аж рэха разносяць;
Ажно лес трасецца! І хцівец затросься,
Але страх падолеў, і усё прайшлося,
І усё заціхло, як магілка ўночы!
Хцівец зноў паставіў на папарáць вочы.
Вецярок па лесе лісткі разьвявая,
Струхнулася папраць, якбы то жывая!
Калі глядзіць хцівец: — кветачка, як сонца
Заблішчэла ясна, хораша бяз конца!
Струсануў на хустку хцівец кветку гэту
І ляціць да хаты з кветкай, як штахэтай!
Цяпер хцівец ведаў ўсё на сьвеце чыста,
Што ў сяродку зямлі, гдзе сіла нячыста,
Як зьвяры гаворац, скуль вада у рэчцы,
Калі што пасеяць, адкуль што бярэцца,
Калі будзе вецер, маладзік настане,

І каму якое гдзе будзе спатканьне.
Умеў перакінуць сябе, ці другога,
Хоць у што захоча, абы не ў сьвятога!
З карача надоіць малака кадушку,
З вады зробіць водку, з каменя падушку;
Як захоча, — дохне скаціна ад вока,
Ведае, гдзе скарбы, хоць-бы як глыбока!
Знаў лячыць шалёных і кроў стрымаць з раны,
Загаварыць зубы, ці вочы паганы,
Заломы у жыце закруціць па злосьці,
Ці выжаць чужыя, як закруціць хтосьці.
Такі стаў дасужы, што сьвет зьдзіваваўся,
Адкуль гэта хцівец разуму набраўся?
Усё, усё чыста, стаў ведаць як трэба,
Толькі што ня ведаў, як зарабіць хлеба.
Узяў ён сякеру, рыдлёўку пад паху
І ідзець у лес той бяз жаднага страху.
Прыходзе да месца, гдзе сьвятло мігнула,
Штрахануў рыдлёўкай, аж зямля здрыгнула,
Як людзкія грудзі, і аж застагнала
Жаласьліва, цяжка, як-бы вот канала!
А ваўкі, мядзьведзі, каты і сабакі,
Гадзіны, рапухі і зьвяры усякі
Калі загалосяць, як закрычаць пташкі,
Аж хціўцу за скурай сыпнулі мурашкі,
Пот паліўся цуркам, валаскі паўсталі...
Хцівец страх падолеў і капае далей.
Трошкі пачакаўшы, скуль браліся крыкі,
Шаблі зазьвінелі, забраждзжалі пікі,
Б'юць у барабаны і крычаць салдаты:
„Лаві, рубі ногі, каб ня ўцёк да хаты!"
А хцівец капае, якбы і ня чуе.
Тут ляціць карэта! — От-от задратуе!
Там сотнямі коні яго налятаюць,
Хурманы ганяюць і асьцярагаюць; —
Ен усё капае — вот так як наняўся,

Як ужо-ж і гэтым страхам не паддаўся. —
Гадзіны з балота, і вужоў ці мала
Лезуць проста ў вочы і тыкаюць жала...
Якбы то ня чуе,— якбы то ня знае!
Потым ваўкалакі, смаўжы, воўкалюды,
Зубастыя ведзьмы сабраліся зусюды;
На яго суюцца, зубамі скрыгочуць, —
Ён тыкі капае, аж чэрці рагочуць!
Асэсараў, соцкіх,ураднікаў хмара
Наляцелі, грозяць, другі аж удара...
Ён усё капае, ані аглянецца.
Скарб і паказаўся, — няма куды дзецца:
Кацёл, як кадушка, жалезам абіты...
Абухом як трэснуў, дык пусьцілі ніты;
Рэчкай паліліся новыя дукаты,
А хцівец падумаў: „цяпер я багаты.“
Набраў іх бяз ліку, у мяшок насыпаў,
На плечы закінуў, зрадзеў, аж захліпаў,
І... ляціць да дому з тымі дукатамі...
Аж тут і пагоня зямлю капытамі
Рвець, як даганяе, аж сапуць іх коні!
Ён чуе, што блізка, можа няма гоні, —
Дукаты ў лісічкі, а сам у калоду
Перакінуўся зараз і прапаў як ў воду!
Калі-ж наляцелі калмыкі, арабы,
Шаблямі махаюць, аж трасуцца храпы,
Ды ніяк нічога ня могуць дарадзіць.
Так то умеў хцівец і сьлед свой загладзіць.
Тыя-ж пастаялі, пацмокалі трохі,
Коні завярнулі і пайшлі, як блохі.
Калоду ў сябе зноў, лісічкі ў дукаты
Перакінуў хцівец і ляціць да хаты.
Калі ў поўдарогі чуе, ізноў гоняць,
Крычаць і страляюць, і шаблямі звоняць.
То былі татары: кудлатыя шапкі,
А твар, як дзьве скулы, а вочы, як крапкі.

Як згледзелі хціўца, калі запішчэлі,
Аж прыляглі коні... але не пасьпелі,
Хцівец верць у дуба, а грошы у роя,
А мяшок у вулей! Удалося й тое!
Цмокаюць татары! Прапаў як у воду!
Адзін кажа „трэба-ж зласаваць хоць мёду."
А тут на іх коні пчолы як сунуцца, —
Ледзьве паўсядалі, каб назад вярнуцца!
Хцівец зноў уцекі. Пад вёскай, за гоні,
Чуе, забубнело, і зноў хтосьці гоне!
То гналіся туркі так, як падчас бітвы:
Палашы крывыя, вострыя як брытвы,
У зубах кінджалы, голавы абрыты,
Бровы так, як вусы, а твары сярдзіты!
Хцівец кінуў камень, а гдзе ён каціўся,
Там ручай глыбокі, шырокі зрабіўся;
На ручаю човен і буч на дне рэчкі
Поўна карасямі. Туркі як авечкі,
Саўсім не пазналі, што то перакінуў
Хцівец сябе ў човен! І цяпер ня згінуў.
Туркі завярнулі, а хцівец уцекі!
Ужо тут пад хатай сусед недалёкі
Як крыкне на хціўца: „Пачакай ты, скнэра!
Падзелімся скарбам! А, які нявера!"
Вытрымаў і гэта, і не аглядаўся,
Стануў на парозе, за закрутку ўзяўся,
Аж тут сам сабою узяў мех прадраўся;
Як сыпнуць дукаты, дык аж загрымела!
Ня вытрымаў хцівец, у вачах сьцямнела...
Агляну́ўся, відзе:—ажно чорт сьмяецца,
Крыўляе, рагоча, за бокі бярэцца!
Тут абамлеў хцівец, як сноп паваліўся;
На раніцы толькі з расой прабудзіўся;
І найперш заглянуў, скарб яго ці цэлы?
Зірк! й губы развесіў, і стаіць здурнелы:
У мяху ўсё трэскі, а грошы ня стала;

А душа за чары на векі прапала.
З папараці кветку хцівец гдзесьці страціў.
Памарка забіла і не разбагацеў!
Цяпер ня то дзесяць, трох не пераліча,
Ня хціўцам, а дурнем кожны яго кліча.
Вось хцівасьць на грошы давяла да згубы:
Няма ў сьвеце лепей, як свой грошык любы,
А то, як каторы чалавек харошы,
У добрым здароўі век зжыве бяз грошы!

## Гдзе чорт ня можа, там бабу пашле.

Адзін мужык цы добра з жонкай ладзіў,
А гэта-ж чорту ў горле косьць.
І што ён толькі не рабіў,—ня звадзіў,
І немарасьць бяре і злосьць.
Чорт з хаты вон ідзе, хвастом трэ вочы:
Жаль душы яму, а навет стыд;
Няраз ня еўшы быў, ня спаўшы ночы,
А скутку ніц — сабе абрыд!
Калі глядзіць; шкулдык, шкулдык бабуся:
Якраз у тую вёску йдзець.
Чорт думае: дай бабе пакланюся,
Яна іх пэўне разьвядзець—
Прад бабай чорт такім харошым стаўся,
Аж вышчарыўся бабін клык;
Чорт жаль свой расказаў і абяцаўся
Даць бабе пару чаравік,
Як толькі муж ды жонку аддубасе,
І прысягу па свойму даў;
А баба ўраз за дзело узялася!
(Чорт бабу пэўна добра знаў
Яшчэ тагды, як яблык крала Ева,
У раі Божым, гдзесьці там,

З таго праклятага праз Бога дрэва,
Што праз яго прапаў Адам!)
Вось бабка зараз шусьць да жонкі на сакрэты;
Давай хваліць: што добра так жывуць,
Што рэдка гдзе знайсьці такой кабеты,
А лепшых дык нідзе ня чуць.
А можна-бы і лепей навет жыць,
Каб жонка ведала сакрэт,
Умела як натое варажыць,—
Яшчэ-бы лепшы стаў ей дзед.
«Есьць у мужчын на самым гарляку
«Грубейшы валасок адзін,
«Як сьпіць,—згалі яго, дык будзе да вяку
«Слухмяны для цябе, як сын!»
Тут бабе жонка надала, што мела,
І баба з Богам выйшла вон,
А жонка з радасьці і полудня ня ела:
Што век-жа будзе добры ён!—
Мужык гарэ і блізка ля мяжы,
А баба міма ідзе... шкулдык,
І стала! кажа: „Божа памажы!“
Як трэба, адказаў мужык.
„Што добрага чуваць, бабуся, ў людзях?“ —
„Ай чула, чула дзісь я шмат!
Ці то казаць, ці не казаць? бо страх!
Цяпер на брата ідзе брат,
А жонкі вернай — гдзе цяпер шукаць?..
І ў тваей каханак ёсьць;
Змаўлялася—як будзеш ў полі спаць,
Дык брытвай табе зробе штосьць!“
Сказаўшы гэта, марш у лес бабуся,
Як ліс лягла за першы куст,
Ціхусенька ляжыць, хоць кашаль дусе,
Ня пусьціць навет пары з вуст!
Аж жонка з полудням ляціць ад вёскі,
Схаваўшы брытву у кішэнь;

На вобмежку паставіла дар Боскі
І кліча мужа, як што дзень.
Ен хмурны штось і есьць ня надта хоча,
А потым зараз лёг заснуць.
Заснуў!.. а жонка ў кішані шамоча...
Дастала брытву—і чуць-чуць...
„Га! рэзаць, подлая ты душагубка!“
Зароў як той шалёны бык:
„Дык вот якая ты, мая галубка!..“
І дай біць жонку той мужык!..
Зьдзівіўся чорт, што баба так зрабіла,
Узяў яго прад бабай ляк.
Стужкі бабіны наткнуў на вілы,
Здалёку даў, баяўся так,
Каб баба і яму жыцьця ня струла;
Не нарабіла ў пекле штук,
Не набрахала-б там, што чула,
Або, што ён—яе байструк.
З тых пор як чорт гдзе не дарадзе,
Там слухае ён бабскіх рад,
У бабскай круціцца грамадзе,
І ў пеклі тым трымае лад!

## Кепска будзе.

Як я толькі нарадзіўся —
Бацька сказаў: „кепска будзе!“
Ну дык-жа ж не памыліўся:
Зьдзекаваліcь Бог і людзі.
А чым кепска?—бо у марцы
Я радзіўся — (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц ў гаспадарцы.
Як пражыў хто — будзе жывы).
Пераеўся хлеб да крышкі,
Бульбы толькі як пасеяць,

І прыварку ані лыжкі,
І скаціна, — хоць разьвеяць;
Ні саломкі, ня то сена
Хоць-бы на раз для скаціны;
А тут дроў ані палена,
А тут яшчэ нарадзіны!
Трэба-ж бабе бохан хлеба
І гарэлкі-ж трэба пляшку,
Яшчэ-ж хрысьціць хлопца трэба...
Вот і думай, як сярмяжку
Нясьці жыду пад заставу,
Ці прадаць каня, кароўку.
„Сеў, казаў ён, я на лаву,
Узяўся за галоўку,
І заплакаў, аж заліўся,
Так як бацьку пахаваўшы...
Кепска зрабіў, што радзіўся,
Кепска будзе, сьвет пазнаўшы!“
Ці то слова йшло урокам,
Што казаў у кепскім часе,
Ці хто кінуў такім вокам?..
Ну і доля-ж удалася!
І збылося-ж бацькі слова! —
Вот у тыдзень вязуць гэта
Хрысьціць мяне да Макрова
Кумоў двое і кабета.
У Аборках мост сарвала...
А я-ж быў — чуць жывы, слабы;
Радаў раду, на тым стала,
Што ахрысьцяць з вады бабы.
З Бярэзіны жменю вады
Кума сама зачарпнула,
Памятала сюды — туды,
Тройчы на мяне лінула.
„Вось і хрэст увесь тут, кажа,
„І ксёндз хрысьціць гэтак сама,

„Толькі яшчэ чымсь памажа,
„А хлапцу ўсё роўна — яма!
„Хоць-бы жывым ды давезьці,
„Каб дарогай не сканала, —
„Скажуць, кепска вязла гдзесьці,
„Або туга спавівала!...“
Гэтак мяне пахрысьціўшы,
Вязуць назад ўжо да маткі.
Вочы добра пазаліўшы,
Ледзьве унясьлі да хаткі.
Закусіўшы тут, як трэба,
Пакумаліся і квіта! —
Баба ўзяла бохан хлеба,
Пляшку водкі, торбу жыта;
Разыйшліся і паснулі. —
Матка-ж мяне калыхае:
„Люлі, шэпча, сынок, люлі“:..
А як зваць? — сама ня знае
Вот назаўтра з пазараньня
Бяжыць матка да кумошкі
Ды пытае, як празваньне
Далі сыну? Лёну трошкі
Тут прынесла пры здарэньні,
Трошкі сала, круп са жменю...
А кума-ж была праворна:
Хоць што збрэша, не запнецца;
Круце сабе ў сенях жорны,
Трэба-ж салгаць! куды-ж дзецца?
„Імя, кажа, твайму сыну
„Ксёндз хацеў даць па кантычцы,
„Думаў ён можа з гадзіну;
„Узяў кніжку, як стаў рыцца,
„Дык даў потым з каліндарка!“
Матка прутчэй з хаты ў сені,
Як-бы цівун гнаў па карку,
Усё шэпча то іменьне:

„Аліндарка, Аліндарка!“
Прыляцеўшы так да дому,
За калыску узялася
І зрадзела, як сьвятому,
Што аж сьлёзмі залілася.
І калыша і галосе;
Надта імя ўпадабала;
Надта добрае здалося,
Што такога і ня знала!
Вось і клікаць мяне сталі,
Скаліндаркам, Аліндаркам...
Ну, як зналі, так і звалі.
Але вось што з гаспадаркай?
— Найперш конь здох, таго-ж лета
І цялушка, як лань пала...
Матка-ж, ведама, кабета,
Затужыла і запала,
Гадкоў за тры пацягнула,
У марцы і ручанькі згарнула,
(А ўсё ў марцы, трэба-ж гэта!
А разумная была кабета!)
З таго гора бацька бедны
Стаў маркотны, як магіла.
Было сядзе такі бледны.
„Што-ж ты гэта нарабіла?“
Гэтак скажа і заплача.
(Хто-ж пачуе, хто убача?)
Потым дай памалу сватяць;
Трэба-ж, ведама, жаніцца,
Каб было каму палатаць,
Каб было у што зьмяніцца,
А так усё памарнела:
Куры, гусі, навет сьвіньні.
І сьвіньня дзяцей паела,
І карова марне гіне...
У восень давай шукаць пары:

Ды ніводная ня хоча,
Аднэй бедны, другой стары,
Трэця чорт зна' — што тарочa:
„Аддай, кажа, Аліндарку
„Куды кольвек, хоць на людзі,
„Сядзь на нашу гаспадарку!
„Тагды выйду, добра будзе!"
Бацька кідаўсь са тры тыдні,
Яшчэ горай зажурыўся,
Прадаў сякі-такі злыдні,
Разлайдачыўся, расьпіўся,
І умёр так пад гародам,
Ушчаміўшы ў плот галоўку.
Шапку знайшлі аж за бродам,
І у шапцы залатоўку.
А на заўтра прывёў соцкі
Асэсара, паноў трое,
Труп той зрэзалі на клёцкі...
(А у марцы-ж было й тое!)
Мяне цётка, у апеку
Узяўшы, трошкі падрасьціла,
Ды якомусь чалавеку
Як за сына адпусьціла.
Незадоўга зьмёрла цётка:
Я стаў круглая сіротка.
Ці гдзе днюю, ці начую,
А ўсё бяду сваю чую!
Пастухі зьбяруцца ў гаю,
Пяюць песьні ля бярозы,
А мне чагось, сам ня знаю,
Смутна, цяжка, цякуць сьлёзы.
Раз я гэтак за вачыма,
Ужо тройчы спавядаўся,
Калі зімой да вайчыма,
Ды урaднік заблукаўся.
Я сяджу сабе на печы,

Пляту лапці, ўю аборы,
Ен показуе праз плечы:
„Што-то? сын твой, кажа хворы?"—
„То ня сын!" айчым мой кажа.
„Узяў сіротку. Дзякуй Богу,
„Добры ўдаўся: позна ляжа,
„Рана ўстане, і адлогу
„Не запусьце... спагадлівы!
„Маю сына, хоць ня родны.
„Ажаню, як буду жывы.
„Будзе Богу й людзям годны!" —
„А лет сколькі?" — той пытае.
„ Двадцаць, кажа, мусіць мае!"
„А зваць як?" „Ды Калiндарка!.."
Раднік піша усё шпарка:
Як радзіўся, гдзе хрысьціўся...
Пісаў, пісаў дый паехаў!
Бацькі яго угасьцілі,
Далі торбачку гарэхаў...
Пасьля таго, так ня далей,
Як у тыдзень і асэсар
Шусьць у хату (і з мэдаляй).
„А гдзе, кажа, той пасэсар,
„Твой Ліндарка, ці як звецца,
„Што хаваецца з ракруцтва,
„Пляцець лапцікі на печцы?...
„Ашуканства, баламуцтва"...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А я-ж ехаць меў па дровы.
Бацька клікнуў, іду ў хату...
А асэсар — той — здаровы!..
Лясь! мне ў морду, потым тату.
Я-ж узяў яго за грудзі
І піхнуў ілбом у дзьверы.
Ен як раўкне: „Гэй, вы людзі,
„Тут разбой. Прыміце меры!...

„Тут рыштант, брадзяга скрыты!...
„Вось і лоб калісь быў брыты!...
„Вяжы усіх, нараджайся!“...
Мяне лясь! „Ты хто? сазнайся!“ —
„Скаліндар, кажу, сірота...“
Пацягнулі па дарозе,
Завязалі і вароты,
Мы-ж спынуліся ў вастрозе...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Астрог, братцы, поглядзеўшы
Мімаходам, выглядае
І нічога: Шак ня еўшы
І ў астрозе ня бывае.
Але лепшы ў хаце голад,
У дарозе велькі холад,
Найцяжэйша праца ў полі,
Як у тэй астрожнай долі!
Відзеў птушку я у клетцы,
Як галоўкай поты б‘ецца,
Аж скрыдэлкам затрапоча
І сканае... жыць ня хоча!..
Раз лісіцу, адкапаўшы,
Прывязалі мы да кола:
Стала-ж грызьці што папаўшы,
Сабе бруха распарола,
Растрыбушылась на часьці,
Каб ня жыць так, хоць прапасьці!..
Нашто — гадзіну, мядзянку,
Пусьці ў шклянае начыньне, —
Сама сабе без прастанку
Будзе жаліць, пакуль згіне!...
Як ужо-ж скаціна тая,
Або гадзіна праклята,
І та цану волі знае,
Што-ж для нашаго-то брата,
Меўшы розум не скацінны,

Як знаць волю мы павінны?..
А ў вастрозе-ж няма волі,
Ніўчым няма і ніколі!
У зялезе тыя дзьверы,
Пры дзьвярох стаяць жаўнеры,
А народ усё сярдзіты,
Так як-бы яшчэ ня сыты
Людзкіх сьлёзаў, мукі, енку,
Не гавораць памаленьку,
А ўсё зыкам, а ўсё з лайкай,
А ўсё з боем, ўсё з нагайкай!

. . . . . . . . . . . . . . . .

У дзядзінец нас як пхнулі.
Дзьвярмі тымі як грукнулі,
Дык і сьвет мне тым закрыўся,
Як-бы у труну забіўся..
Зараз старшы ўзяў за плечы
Хляснуў тройчы, так! бяз рэчы,
Ключы кінуў,—„У халодну!“
І аблаяў матку родну.
Нас піхнулі як у яму
У цёмну хату чтэрагранну,
Далі хлеба, вады меру
І запёрлі як за веру
У цямніцах калісь гэта
Замыкаліся ад сьвета.
Цёмна, зімна!.. прытуліцца
Няма куды! А каганец,
Як-бы губка, толькі тліцца...
Засьпевалі мы ражанец:
Пяём, плачам, аж галосім,
Божай ласкі, Праўды просім!
У такім енку са сьлязамі
І паснулі мы ў тэй яме!
Абудзіўся я з зьдзіўленьня:
Глядзяць ў шчэлачку праменьня!

Я падумаў: ласка-ж Божа
І сюды пралезьці можа?
Аглядаюся вакола,
Як-бы шукаў і тут Бога.
Мне зрабілася вясёла,
Не баюся я нікога,
Зноў ражанец: „Бог уцечка!“
Бляю сабе, як авечка.
Калі бразьць ключом у дзьверы,
І крычыць хтось: „Гэй! вы зьверы,
Вы бунтоўнікі, паскуды,
Выбірайцеся адсюды!
Тут важнейшым трэба сесьці,
Вас у вобшчу здадзём гдзесьці!“
Павялі нас аж на гору...
Па якомусь калідору...
Дзьверы! дзьверы! ў дзьверах дзюрка,
І у кожнай-жа хвігурка
Як-бы тая-ж выглядае!
Гдзе ні глянеш, усё-ж тая:
Блішчаць вочы, твар як гліна,
І абросшы, як скаціна!..
У турме, як у тым гробе,
Ішлі, ішлі, гэтак з гоні.
А смурод такі, што з воні
Мне аж дух у грудзях сьпёрла,
Як-бы цісьне хто за горла.
Тут нам хату паказалі,
Упусьцілі, разьвязалі,
Вады далі, трохі хлеба
І запёрлі зноў, як трэба.
Тут народу шмат сядзела,
Глянуў я—душа самлела!
Як падушкі у іх твары!
У хаце пуста, толькі нары.
Ляжаць усе, з нас рагочуць,

Навет месца даць ня хочуць.
„Давай, кажа, хоць на пляшку!
А ня даўшы, дык парашку
Вынасіць заўсёды мусіш,
А ўжо хлеба — дык ня ўкусіш!
Мы табе наб'ём аскому,
Пакуль вернешся да дому!“
Я спалохаўся, баюся:
„Войча наш!“ кажу, малюся...
Бог даў спомніць: залатоўка
Гдзесь была ў кашулі ўшыта,
Што дала калісь жыдоўка,
Як надвёз у млын ёй жыта.
Хутка сарваў тую лату,
Кінуў злоты той на хату...
І ня ўгледзіў як хапілі,
Толькі, відзеў, водку пілі.
Тагды сталі нас пытацца,
Ці застаўся хто у хатцы?
Адкуль? за што пасадзілі?
Іншы вуча на пытаньне
Даць якое паказаньне:
„Кажы, кажуць, знаць ня знаю,
„Чый я ёсьць, з якога краю.
„Малым быўшы, сьляпых водзіў;
„А падросшы і сам бродзіў;
„Ня прыпісаны да сказкі,
„І так жыву з Божай ласкі.
„Бог мой бацька, зямля матка:
„Знаць ня знаю!“—усё гладка!
Так да марца сядзім ціха,
Ня чуваць дабра, ні ліха.
А у марцы шлюць бумагу,
Каб даставілі брадзягу,
Супраціўніка уласьці,
Улажэньня першай часьці,

Што мянуэцца „Ліндорам“
Ды йшчэ б‘ецца з асэсорам.
Ды каб быў у ланцуг закуты,
На нагах каб былі путы,
Праважацелі каб срогі,
Каб ня сходзілі з дарогі,
А каб проста да начала...
І цімала там пісала?!

. . . . . . . . . . . . . .

Вот назаўтра рана, рана
Нам адзежка наша дана;
Паскідалі мы сярмягі,
Салдат узяў дзьве бумагі,
Нас зьвязалі і ў дарогу!..
Я падумаў: „Дзякуй Богу!
Хоць нас сонечка сагрэе!
Вецерчык на нас павее!
Можа дожджык срыбрны змоча!
Можа птушка засьвіргоча!..“
Аж заплакаў я зрадеўшы!
От, здаецца-б, і ня еўшы
Быў-бы сыты на свабодзе!
Як той кролік у гародзе!
Тут здаецца і сканаў-бы,
За свабоду жыцьцё-б даў-бы!

. . . . . . . . . . . . . .

Жаўручочкі Бога хваляць,
А пастушкі агонь паляць,
А і сонечка прыгрэла,
Аж мне ў душы паясьнела,
Да палудня ішлі гэтак;
Пры дарозе шмат і кветак:
То пралескі, то сасонкі
Выгравае Божа сонка!
Так падвечар ў месцы сталі,
У халоднай начавалі, —

Было розна. Заўтра зраньня,
Якраз у дзень Зьвяставаньня,
Клічуць мяне да дапросу,
(Задаваць то ужо чосу!)
Той судзебнік маладзенькі,
Такі быстры, хоць маленькі:
Усё пытаецца, ды піша,
І нагой усё калыша.
Як спытаўся мяне, хто я?
Я і спомніў сабе тое,
Як вучыў там той з астрогу:
„Знаць ня знаю я нічога"!
І старога тут клікнулі,
Папыталіся, раскулі
І да дому павярнулі.
А мне кажа: „ты, брадзяжка,
„Сакрыў званьне, будзе цяжка:
„Сорак розаг, потым роты!
„Скажы лепей—аткуль, хто ты?"
А ўсё піша, піша, піша
І нагой усё калыша.
Пісаў, пісаў, даў другому
І сам пайшоў кудысь з дому.
Мяне зноў-жа да астрогу.
Толькі цяпер, дзякуй Богу!
Адзінокі я застаўся.
Айчым плакаў, як жагнаўся:
„Помні, кажа, мяне, сыну,
„А я, хіба што сам згіну,
„А цябе вярну да вёскі,
„Хіба-б ужо гнеў быў Боскі,
„Або-б Праўда гдзесьці зьмёрла! —
„Выйму цябе ім із горла!
„Бог паможа проці сілы,
„Праўда выйдзе як з магілы!"
Сказаў гэта, пакланіўся,

Ды ізноў сьлязьмі заліўся.
І мне стала ў вочах цьмяна,
Зашчымела ў сэрцы рана,
Як-бы штосьці адарвала,
Сам ня знаю, што мне стала...
Калі гляну, ачунеўшы, —
Я ў шпіталі, захварэўшы...
Галава мая абрыта,
Твар вадой, ці чым абліты,
А піць хочацца... здаецца,
Рэчку-б выпіў, каб пры рэчцы!
Так я праляжаў тры тыдні,
Прадаў усе свае злыдні;
Надта есьці стаў памногу
І паправіўсь, дзякуй Богу!...
Я-ж тут ляжу і ні рэчы,
Што там стары гаспадара.
А ён торбу ўзяў на плечы,
Па начальству просьбы жара!
Тройчы Вільню, сем раз Ліду
Ён адведаў. Трэба-ж ведаць, —
Прысягнуў, пакуль ня выйду,
Навет дома не абедаць!
Раздабыў усе паперы,
Запісаў мяне у сказку...
Што і бацька-б можа шчэры,
Не зрабіў такую ласку.
Так у восень, ў замарозкі
Прывялі мяне да вёскі,
Пазьбіралі шмат суседаў!...
Кожны гаварыў, што ведаў:
Як я тут, калі радзіўся,
Як і бацька мой жаніўся...
Паказалі усё чыста,
І што імя мне „Каліста“,
Што завуць мяне „Ліндарка“

Так, на сьмех, што чыста гол,
Як ліндар, што на хальварку:
Увесь маёнтак: — ён ды вол.
А асэсар быў ўжо новы,
Чалавечак так, нічога,
Якісь ціхі, нездаровы
І цярплівы... хваліць Бога!
Пасьля таго праз паўгоду
У марцы-ж, мяне на свабоду,
Дзякуй Богу! адпусьцілі
У той дзень, як і хрысьцілі.

## У вастрозе.

Паперы прыйшлі ў турму з Акружнога,
Што зараз зачнецца суд пасьля Каляд!
Сядзела-ж там нашага брата і многа,
Было і нявінных паміж намі шмат!
Быў пан, што у банку краў грошы чужыя,
Быў пісар, што выдаў паперы благія...
Я сам тут сядзеў, а за што? Каб спыталі,
Дык я-б не сказаў, і яны-бы ня зналі.
А пісана так: „што страбіў жывы знак.“ —
Калок на капцы (быў гнілы, як бурак)
Пры полі маім мне стырчаў так, як скула,
Наехаў кабылай і слуп той зьвярнула.
Каб жа люльку паліць было чым не красаўшы,
Агонь разлажыў, той калок пашчапаўшы.
Прыехаў да дому, пасеяўшы грэчку,
Закінуў кабыле, забраўся на печку.
На заўтра праспаўшыся добра, у ранку
Завець мяне сотнік, стукнуўшы па ганку:
Ураднік склікае народ аж на поле,
Пісаць там штось трэба яму ў пратаколе.
Пайшоўшы гляджу я, аж ён штось пытае:

„Чыя то граніца і грэчка от тая?
Хто слуп асьмяліўся спаліць самапраўна!
Калі то было? — ці даўно, ці нядаўна“?..
Урадпік-жа піша, а я дык сьмяюся,
Кажу: „Ох, я надта сябе ды баюся!
Пытаю: „ці брат твой, ці бацька гніляк,
„Што ўзяўся пісаць пратол шчыра так?
„Ці можа той кол толькі ёсьць твой зямляк?
„А можа вялікі якісь быў начал,
„Ці спраўнік, ці большы яшчэ гэнарал?
„Прыблуда! схавайся, адкуль ты прыйшоў,
„У нас ужо досыць такіх прыбышоў,
„І кожны згніе, бо як кол тут убіўся,
„А зрублены пень там згніе, гдзе радзіўся!
„Кабыла мая дык усіх вас паверне,
„Ня то што чапаць, але толькі як п...
А людзі рагочуць, зыйшоўшыся з хат,
Бо кожны ўтапіць-бы ўрадніка рад.
А ён тыкі тое, што я кажу піша:
Другі раз спытае, чаго не паслыша.
Мяне-ж яшчэ болей ды сьмеласьць бярэ.
А дзядзька мой блізка за гоні гарэ;
Я-ж біч яго ўзяўшы, ды ззаду зайшоў,
Ураднiку тройчы як дам між вушоў!
Аж ён закрычаў: «калавур, тут разбой!»
І зноў запісаў, ўзяў паперы з сабой,
Як сеў на каня, дык аж пыл закурэў!
Народ-жа са сьмеху увесь аж памлеў.
Сьмяёмся сабе, а таго не ўдагад,—
Урадпік — начальнік, ня то што наш брат.
За тыдзень-жа сотнік павесткі прыпёр,
Каб мы усе заўтра зьявіліся ў двор:
Тут пан прыляцеў, аж на тройцы з званком,
Распытываць будзе пад строгі закон.
Тут некуды дзецца, на заўтра чуць сьвет,
Мужчын з два дзесяткі, дванаццаць кабет,

Ідзём да двара, за малым ня дзьве мілі.
Ідзём, а чаго? каб мы зналі, хоць сьнілі
Адзін кажа: выйшаў то пэўна указ,
Каб скінуць падаткі якія із нас;
Другі — што зямлі дададуць, ці аброк
Даруюць за прошлы, ці гэты хоць рок.
Лгуць бабы, што біскупа вернуць ізноў,
Ці можа біць розгамі будуць паноў,
Затое, што немцам усё прадалі,
І надта па шмат што даўгоў завялі:
У банках усе аж па вушы сядзяць,
Кідаюць двары, на Парыжу глядзяць;
Усе пушчы зьмялі у жыдоўскі кішэнь
І жывуць так бяз заўтра, абы з дня ды на дзень!
Ніхто не згадаў, чаго клічуць у двор,
Ніхто не паняў, што сотнік прыпёр!
Прыходзім у двор,—той начальнік ёсьць тут.
Выходзе да нас, апрануўшы сурдут,
Пытаецца так: «А за што вы, рэбяты,
Урадніка здулі, ледзь трапіў да хаты?»
— „За тое, мы кажам, што надта ён ласы:
„Што любіць яешню, курэй і каўбасы,
„Унадзіўся надта ён лазіць па хатах,
„Ды нюхаць, каторай муж служа ў салдатах;
„Ды надта цікавы, каторы што мае
„Ня то што ў сьвірне, ў кішэнь заглядае;
„Сьвіньнёй гаспадарыць у нашым гародзе,
„Праз дзьверы улазе, праз вокны выходзе,
„На полі слупкі—і да іх яму наўда,
„Таго-ж не ўтаропе, гдзе крыўда, гдзе праўда:
„Ен гад, каб пісаць, а рабіць—то ня робе,
„А нам дык ён так, як той кашаль ў хваробе!“
Мы-ж гэтак лапочам, а ён усё піша,
Пытаецца толькі, а сам—як ня слыша;
А потым чытае: „Такія то людзі
„Урадніка білі, цягалі за грудзі;

„Прызналіся самі і як і чым білі,
„І зналі самі, што закон праступілі,
„Супроці начальства, законнай уласьці!
„І змовілісь вёскай урадніка ўкласьці.
„Зачыншчык-жа я,—або я той калок
„Спаліў, а другіх я ў бунт увалок;
„Дык мяне у вастрог той-жа час запярці
„І судзіць найстражэй па вялікай стацьці!"
Чытае ён гэтак, а мне дык здаецца:
Ён з нашага брата і з праўды сьмяецца:
Ў законе-ж ўсе роўны і пан і мужык,
А што-ж то ураднік за велькі індык?
Як ён каго трэсьне, дык гэта нічога,
Яго-ж не даткні, так як Юр'я сьвятога".
То так думаў я, ажно выйшла ня тое!
Ураднік — на службе, то дзела другое:
Тагды сьцеражы ты яго, як тэй скулы
Бо ён — то ня ён, а то ёсьць артыкулы,
Разьдзелы, стацьці і ўсе зводы закона!
Мужык-жа, наш брат, той усюды варона.
Здалося мне, што ці дурню, ці шэльме,
Ці хітры ён будзе, багаты хоць вельмі,
Мундзір хоць надзенеш жупан хоць-бы новы,
А дурнем-жа будзе дурны безгаловы;
А шэльму-жа нюхам пачуе сабака,
І ўсюды для шэльмы чэсьць будзе аднака.
І прыказка-ж кажа, што Бог ня целя,
З усей грамады пазнае круцеля!
Законы-ж, а думачкі нашага брата,
Як ноч а то дзень; гэта — будні, то — сьвята!
Вот гэтых законаў паняць я ня мог;
За гэта-ж цяпер я папаўся ў вастрог.
Цяпер ужо тут, дык мне вочы працёрлі,
Пазнаў, як у бацькаву хату запёрлі...
Ото-ж і завуць і мяне на той суд,
Вучыць шанаваць і начальства, і кнут.
І слуп, што гніець, стаючы ля дарог,
Бо начал, кнут і слуп то даў Бог!

# Быў у чысцы.

Раз у дзень задушны, якраз а паўночы,
Іду я да дому... а цёмна і ўюга!..
Не каб заліўшы саўсім ужо вочы,
Але так, ў меру падвыпіўшы туга.
Іду і мяркую, ці то цяпер шчасьце,
Як паноў ня стала, ці то была доля?
І лічу на пальцах: паншчыны дванасьце,
А гадоў да трыццаць, як настала воля...
Там быў аконам, камісар і цівун,
Намесьнік, лясьнічы, хмістрыня, паны.
І кожны меў права узяць за бізун,
І кожны меў права да нашай сьпіны...
А цяпер?.. Ой штосьці кепска выходзе,
Цяпер ці ня болей настала паноў?!
Ня надта свабодна у гэтай свабодзе.
І давай я лічыць паноў новых ізноў:
Староста, соцкі, пісар, старшына,
Пасьрэднік,ураднік, асэсар і суд,
Зьезд міравы, прысуцтвы і сход...
Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў ня стала на ўвесь гэты шчот,
А пальцамі-ж трэба карміць гэты люд!..
Іду... калі, шусьць, як маланкай спаліць,
Стаіць, так якраз, што умёр, аканом.
Прыгледжуся: — ён — тыкі ён — і стаіць,
І стрыжаны-ж вус і стаіць з бізуном...
Схудаўшыся толькі: скура ды косьць.
А белы ўвесь чыста, белы, як сьнег,
Толькі на сэрцы плямачкі ёсьць.
І плямкі на пальцах — мусіць то грэх?!..
„Брацiку, кажа, браце Мацей!
„Ратуй маю грэшную душу
„З чысца, з рук подлых чарцей,

„Або на векі загінуць я мушу!
„Дваццаць пяць лет, што у чысцы я пёкся,
„Усе грахі выбыў, усіх-жа адрокся,
„Толькі на сэрцы вот грэх як смала,
„Прыліп да мяне і ня змыты.
„То за жонку тваю: саграшыў, як жыла;
„За цябе, што нявінна быў біты.
„Ох, ідзі ты са мной, зачарпнуўшы вады,
„Аж да чысцу таго, аж на дне,
„І выбач ты мяне, што як быў малады,
„Твая жонка-краса спадабалася мне.
„І палій ты вадой мне на сэрца, Мацей,
„Буду Бога маліць за цябе, за дзяцей!“
Я заплакаў з жалю, але думаю: досьць
Нацярпеўся і ён, бо лазіць што жывы,
Гэтак ссох ад агню — толькі скура ды косьць.
Пайду ў чысьцец я той, пагляджу на дзівы!
І дзівы-ж, браце мой, у тым чысцы, але!
Чэрці кормяць смалой і гатуюць ў смале,
І цягаюць, і рвуць, запрагаюць у воз,
Кручком цягнуць кішкі і зубамі за нос;
Вочы колюць ражном, пазурамі рвуць твар,
Скрабуць скуру нажом, як на боты тавар.
І каго-ж тут няма? — тут і пан, і жабрак,
Генарал і салдат, аканом і мужык.
А што баб і дзявок — сказаць так, —
Ўтроя больш як мужчын ёсьць на лік.
Хто за што, а як баб, дык найбольш за язык.
Языкі-ж даўжыні — так як добры ручнік.
Іх і паляць смалой і нажамі скрабуць,
І ніяк да бела прапаліць не магуць.
Надта шмат маладых, што дурылі мужоў;
Чараўніц, а і зводняў старых...
Тут я шмат і знаёмых знайшоў,
Але так не чапаў ужо іх.
З мужыкоў тут ня надта, каб шмат,

А ўсё больш дык багатых паноў,
На зямлі адцярпеўшы, наш брат
На той сьвет, як па масле, пайшоў!
А паном дык і трудна цярпець
Бяз прывычкі, дык стогнуць, аж страх!
Глянеш, пан, як, здаецца, мядзьведзь,
А чорт дышлем запрог і трах-тарарах,
Бічам б'е, ражном пора у тыл,
Морду круце на бок і за кудлы трасе;
Стук і крык, аж віхор круце пыл,
Так пан чортавы воз той нясе.
Там паны і муруюць й гаруць,
Вымятаюць, і сьвіньні пасуць,
А смалу, дык як мёд, там жаруць,
А каменьня як горы нясуць
Усё ў пекле, каб дно як зрабіць;
А ўсё толку нямаш з іх работы нігдзе:
Тут яны робяць усё, абы збыць,
І там ім гэтак работа ідзе.
Я-ж то думаў, што ксяндзоў тут няма,
Калі зірк! аж і ксёндз тут сядзіць:
Чорт яго аблажыў грашыма,
Запаліў у грашох тых, і ксёндз так гарыць.
А другі — дык вісіць, але як? —
Дык і стыдна мне вам гаварыць!
А са стыду чырвоны, як рак,
Вочы жмура, як кот, і гарыць.
А тут баба яго так кляне
Ды так лае з астатніх-жа слоў,
Што, каб гэтак хто лаяў мяне,
Я-б яго з сьвету даўно перавёў.
Станавы, старшыня й тыя тут.
Тым дык чорт усё грошы зьбярэ,
Скруце цьвёрды круцель, або жмут,
Ды у горла запрэ і даўбешкай пярэ
Каласірам, ці чым там паліў

І жмут той у горле агнём запаліў...
Але-ж і ёсьць там народу, аж цьма!
І роду ўсякага і стану, і веку,
Хто ня жыў на зямлі, таго тут няма;
Няхай Бог сьцеражэ там быць чалавеку
Ледзь я прайшоў аж у тую кануру,
Гдзе аконам Бізунскі цярпіць.
Чорт і яго запрагае у фуру.
Спацеўшы бедны, а енча: „Дай піць“!
Я брызнуў крапідлам на твар,
Ен аж зрадзеў, як дзіця,
Як хапіўся рукой за той каламар,
Што узяў я з вадой яму для піцьця.
Дык высахла зараз вада аж да дна;
Ен стаў такі сьветлы, як гэты дымок,
Стаў нікнуць, засталася пара адна,
І зьнік так, як нікне на сонцы аблок...
Ня помню, як выйшаў я з чысцу таго,
Праснуўся у хаце, на печы, аж днём.
Усе кругом плачуць, ня ведаць чаго,
А паліць мяне ды так, як агнём!
Трашчыць галава, баляць усе косьці,
І нацта вацы зажадалася піць.
Напіўся і зноў упаў я у млосьці!..
От давялося-ж у чысцы мне быць.

# Зьмест.





